

# Беларус

«Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь зьяўляецца беларуская мова».
— *Канстытуцыя РБ, Артыкул 17.*

№ 422 Сакавік 1995
Год выд. 44

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

## ПАГЛЯД НА 1995 ГОД

*(Пераклад часткі артыкулу Арта Турэвіча пад заг. «Пэрспэктыва: 1994 і далейшыя гады» з квартальніка* Belarusian Review, vol. 6, No. 4, Winter 1994/95. *Англамоўны «Беларускі Агляд» рассылаецца шырака па сьвеце, у тым ліку па міністэрствах замежных спраў і пасольствах шмат якіх дзяржаваў Захаду, у замежныя прадстаўніцтвы пры ААН і ўва ўсе галоўныя амэрыканскія публікацыі.)*

Беларусь пачала новы год пры нястрымнай інфляцыі, далейшым абніжэньні жыццёвага ўзроўню ды ў суправаджэньні ўсіх іншых цяжкасьцяў. Найбольш праўдападобна, што палажэньне ня шмат зьменіцца да часу парляманцкіх выбараў у травені 1995 году. Наўсуперак урадавым прадказаньням справы далей ідуць ад благога да горшага. Прыкладам, урад абяцаў зьнізіць інфляцыю пад канец году да 10 працэнтаў і да аднаго працэнту да канца 1995 году — усё гэта, каб забясьпечыць сабе крэдыты ад Міжнароднага Валютнага Фонду. Аднак, у лістападзе Прэзыдэнт Лукашэнка загадаў падвысіць заработную плату і стрымаць лібэралізацыю цэнаў. А цяпер, як падало агенцтва Ройтэра, Прэм'ер-міністар Міхаіл Чыгір заявіў 5 студзеня на прэсканфэрэнцыі, што «наша антыкрызісная праграма не апраўдалася адносна інфляцыі. У студзені інфляцыя дасягне 50 працэнтаў». Чыгір таксама сказаў, што цэны і заробкі ў студзені падымуцца: прыкладам, мінімальны заработак павялічыцца з 20 тысячаў беларускіх рублёў да 30 тысячаў (каля трох амэрыканскіх даляраў). Вось табе й маеш!

І яшчэ адна рэч. Ня трэба забывацца пра зьдзелку, якую Беларусь падпісала з Расеяй 6 студзеня сёлета. Фактычна, было падпісана цэлых 8 пагадненьняў. Паводле аднаго зь іх, паміж Беларусяй і Расеяй устанаўляецца адна мытная прастора. Беларусь будзе атрымліваць ад Расеі танную сыравіну і энэргарэсурсы. Узамен-жа будзе мець на сваёй тэрыторыі на працягу наступных 25 год дзьве расейскія ваенныя базы: адну пад Баранавічамі, другую пад Вялейкай. Апрача гэтага, Беларусь павінна будзе ўтрымоўваць расейскае войска, разьмешчанае на ейнай тэрыторыі як частка стратэгічных сілаў СНД. Наяўнасьць расейскага войска ў Беларусі разам з напорыстай расейскай меншыняй жыхарства рэспублікі будзе абмяжоўваць палітычную свабоду беларускай дзяржавы і выклікаць напружаныя дачыненьні з суседзямі. А цяпер яшчэ і прыезд у Менск міністра замежных спраў Расеі, а там — і Прэзыдэнта Ельцына.

Беларусь мела-б больш шансаў для сябе, калі-б дэмакратычная апазыцыя аб'ядналася і выйграла ў надыходзячых выбарах. Парлямант тады здолеўбы правесьці адкладаныя дасюль рэформы ды забясьпечыць неабходны балянс у падзеле ўлады.

Калі-ж апазыцыя ня справіцца з гэтым заданьнем, дык можна меркаваць, што ўсё застанецца бязь зьменаў. Будзем і надалей слухаць урадавыя дэклярацыі і ня бачыць ніякіх дзеяньняў, пры далейшым заняпадзе эканомікі й культуры ды пры палітычным застоі. Пры гэткіх абставінах урад будзе далей імкуцца праводзіць інтэграцыю з Расеяй. Маючы на ўвазе такі варыянт падзеяў, цікава будзе сачыць далейшыя крокі Расеі ў дачыненьні да Беларусі, памятаючы пра падпісанае ў сьнежні Расеяй, Злучанымі Штатамі і Вялікабрытаніяй запэўненьне незалежнасьці і тэрытарыяльнай цэласьці Беларусі. Рэч у тым, што нельга даваць Расеі ў сьвятле крывавых падзеяў у Чачні і парушэньня Масквой міжнароднага пагадненьня, якое вымагае паведамляць іншым дзяржавам аб перамяшчэньні вялікіх вайсковых злучэньняў.

Наша ацэнка палажэньня, магчыма, выглядае пэсымістычнай і нам хацелася-б, каб мы памыляліся. Мы хочам, каб Новы Год стаўся паваротным мамэнтам для Беларусі — каб краіна выйшла нарэшце з амярцьвеньня і пачала энэргічна набываць незалежнасьць, разбудоўваць дэмакратыю, праводзіць рыначныя рэформы ды набываць статус поўнакроўнага члена сусьветнай грамадзкасьці. Мы спадзяёмся, што нядаўныя новыя кантакты Беларусі з Захадам будуць пашырацца ды што Захад не падвядзе Беларусі.

**Арт Турэвіч**

## НЕГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСІ НА АДКАЗНЫХ СТАНОВІШЧАХ

Маскоўскае агенцтва навінаў Інтэрфакс падало 3 сакавіка сёлета пра выказваньне народнага дэпутата Беларусі Ўладзіміра Грыбанава аб тым, што ў дыпляматычным прадстаўніцтве Беларусі ў Маскве ніводзін з дыпляматаў ня мае беларускага грамадзянства. Грыбанаў паясьніў, што гэта — вынік прынятага ў 1991 годзе заканадаўства. Такім станам тлумачыцца і тое, сказаў Грыбанаў, што «Расея абыходзіцца зь Беларусяй як з часткай свае тэрыторыі».

Паводле газэты «Свабода» (8.II.95), адзін з ахоўнікаў Прэзыдэнта Лукашэнкі, былы палкоўнік КДБ чачэнец Махмуд, які перабраўся ў Беларусь пасьля антыельцынскага бунту ў расейскім парляманце, таксама ня мае беларускага грамадзянства.

## ПРЫВІТАНЬНЕ

Суродзічам на Бацькаўшчыне ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня на 77-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі

*Паважаныя Суродзічы!*

*77 гадоў таму, 25 сакавіка 1918 году, у няспрыяльных умовах нямецкай акупацыі Рада БНР абвесьціла Беларусь вольнай дэмакратычнай дзяржавай. Прынцыпы пабудовы новага ладу былі сфармуляваныя ў трох устаўных граматах Рады БНР. Ад таго часу Дзень 25 Сакавіка стаўся сымбалем імкненьня беларускага народу да свабоды і незалежнасьці. Пад рознымі рэжымамі і акупацыямі беларускія патрыёты штогоду адзначалі і далей адзначаюць гэты дзень як напамін, што ідэал свабоднае дэмакратычнае беларускае дзяржавы мусіць быць дасягнуты, як заклік да працы над вызваленьнем і адраджэньнем Беларусі.*

*77-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі адбываюцца ў часе, калі перад беларусамі, дзе-б яны ні жылі, стаіць заданьне спрыяць сучаснаму працэсу адбудовы беларускае дэмакратычнае дзяржаўнасьці, эканомікі, нацыянальнае культуры, асабліва мовы.*

*Беларусы ў дыяспары намагаюцца спрыяць пашырэньню ў сьвеце інфармацыі пра Беларусь, наладжаньню эканамічных і культурных сувязяў з краінамі свайго пасяленьня, выхаду рэспублікі на міжнародныя кантакты. Разам з тым нас трывожаць факты няўвагі да нацыянальных інтарэсаў Беларускай дзяржавы збоку некаторых урадаўцаў Рэспублікі Беларусь, у тым ліку непаважлівае стаўленьне да беларускае мовы. Мы спадзяёмся, што недалёкі той час, калі на Беларусі ўсе ейныя грамадзяне прыйдуць да паразуменьня, што дзяржаўнае будаўніцтва будзе мець найбольш шанцаў на ўдачу, калі ў ягоную аснову будуць пакладзеныя ідэалы, якімі кіраваліся творцы Акту 25 Сакавіка — каб беларуская дзяржаўнасьць будавалася на агранічнай лучнасьці з гісторыяй і культурай народу, зь ягоным адвечным імкненьнем быць гаспадаром свае зямлі і свае долі.*

*Жыве Беларусь!*

*Жыве Беларуская Народная Рэспубліка!*

Нью-Ёрк, 20 сакавіка 1995 г.

**Антон Шукелайць**
**Старшыня БАЗА**

## БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЯ ФУНДАЦЫЯ ЗДАРОЎЯ ДЗЯЦЕЙ

Стараньнямі амэрыканскіх і беларускіх лекароў створана новая дабрачынная арганізацыя мэдычнай дапамогі беларускім дзецям. Арганізацыя завецца Беларуска-Амэрыканская Фундацыя Здароўя Дзяцей (БАФЗД). Наша інфармацыя пра яе базуецца на лісьце й залучніках, атрыманых ад сакратара Фундацыі др. Марыі Дэмковіч. Суснавальнікамі БАФЗД зьяўляюцца: (з амэрыканскага боку) др. Томас Фолі, міжнародна ведамы спэцыяліст лячэньня захворваньняў шчытавіднай залозы і дырэктар Эндакрыналягічнага аддзелу дзіцячага шпіталя пры Пітсбургскім унівэрсытэтце (ў БАФЗД др. Фолі займае становішча старшыні рады дырэктароў); др. Ўорэн Груп (скарбнік); Вольга Корбут (ганаровы старшыня); др. Марыя Дэмковіч (сакратар). Др. М. Дэмковіч, пэдыятр і сямейны лекар на пэнсіі, ведамая сваёй самаадданай дзейнасьцю на карысьць ахвяраў чарнобыльскай радыяцыі ў Беларусі.

Зь беларускага боку сузасавальнікамі БАФЗД сталіся былы міністар здароўя др. В. Казакоў і др. Аляксей Кубарка, дырэктар менскага Мэдыцынскага інстытуту.

Др. Фолі вельмі шмат зрабіў для беларускіх дзяцей па лініі Праграмы Партнэрства паміж пітсбургскім дзіцячым шпіталём і менскімі мэдычнымі ўстановамі (абмен спэцыялістамі, лектарамі, кансультацыямі).

Дзякуючы ягоным намаганьням, на гэтую мэту было атрымана з амэрыканскіх дзяржаўных фондаў 280.000 даляраў. За год, аднак, Праграма Партнэрства скончыцца. БАФЗД спадзяецца працягваць далей гэтую працу і разьлічвае на фінансавую дапамогу грамадзтва, у тым ліку беларуска-амэрыканскіх і беларуска-канадзкіх арганізацыяў. Кіраўніцтва БАФЗД заклікае ўсіх людзей добрае волі дапамагчы ахвяраваньнямі ў гэтай пільна патрэбнай справе лячэньня беларускіх дзяцей. Пасылайце вашы ахвяраваньні на адрас: Belarus-American Child Health Foundation, P.O. Box 71094, Pittsburgh, PA 15213.

Калі-б хто-небудзь зажадаў пагутарыць з др. Томасам Фолі, яму можна свабодна тэлэфанаваць на нумар (412) 963-9640 або слаць факс на (412) 692-5834. Калі-б вы хацелі пагутарыць з др. Марыяй Дэмковіч, тэлефануйце ёй на (301) 774-9458.

Кіраўніцтва БАФЗД з амэрыканскага боку мае таксама намер прасіць дапамогі ў сэнатараў і кангрэсмэнаў. Пажадайма яму ў гэтай дабрароднай справе як найбольшых удачаў.

Уладзімір Дзехцярук

***ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!***

*Зноў нам кажуць, што мы — не народ,*
*Зноў нам хлусяць бяз каплі*
*сумленьня*
*І спрабуюць на наш агарод*
*Панакідваць чужога каменьня!*

*Зноў з усходу «старэйшы браток»*
*Адпускаць нас з абдымкаў ня хоча,*
*А на захадзе чыйсьці раток*
*Пра «усходнія крэсы» шапоча.*

*Зноў урад наш плюе на людзей,*
*На жыцьцё іх, на харч і здароўе,*
*Зноў нам раіць якісь «дабрадзей»:*
*«Пераходзьце хутчэй на двухмоўе!»*

*І паўзе па зямлі, як чума,*
*З вуснаў тых, хто «жадае нам волі»:*
*«Беларусі-ж ніякай ... няма!*
*Ня было яе нават ніколі!»*

*І зрываецца хтосьці на крык:*
*«Мы прышлем табе сенца і пойла,*
*Але ... згадвай пра пугу, мужык,*
*І ня рвіся з уласнага стойла!»*

*...Нам памкненьняў такіх ня*
*зьлічыць,*
*Бо заўсёды іх глупства злучала,*
*Але родная мова гучыць*
*Нават там, дзе раней ня гучала!*

*Дык няхай пашырае уплыў,*
*Хай парве ненавісныя путы,*
*Каб народ беларускі ажыў*
*І ня піў іншаземнай атруты!*

*Хай наш вораг свой голас сарве,*
*Хай ахрыпне ягонае горла —*
*Беларусь ажывае... Жыве!*
*І ня верце, яна не памёрла!*

Эстонія, 1995

## WALL STREET JOURNAL ПРА РАСЕЙСКУЮ ІМПЭРЫЮ

У грунтоўным артыкуле з Масквы карэспандэнтка гэтай уплывовай газэты, Клёдыя Розэтт, піша, што паралельна з наступам на Чачню ельцынская Расея ўзялася адбудоўваць тое, што расейскія нацыяналісты завуць «Вялікай Расеяй» — старую імпэрыю, пакідаючы збоку тры балцкія рэспублікі. Карэспандэнтка піша і пра Ельцынаў візыт у Беларусь, дзе расейскі прэзыдэнт заявіў, што «няма альтэрнатывы ўзмацненьню сувязяў паміж Расеяй і Беларусьсю». Адбываецца таксама русыфікацыя СНД, піша газэта, адзначаючы, што дзейнасьць дзяржаваў Садружнасьці адбываецца найбольш не ў намінальнай «сталіцы» СНД Менску, а ў Маскве.

## БЕЛАРУСІКА Ў ПАТСДАМСКІМ УНІВЭРСЫТЭЦЕ

Летась у Патсдамскім Унівэрсытэце было заснавана Таварыства Беларускай Культуры з мэтай паглыбленьня беларусаведнае дзейнасьці і папулярызацыі беларускай культуры. Вядучую ролю ў дзейнасьці Таварыства выконвае др. Ніна Брэдэрлё, удзельніца леташняе міжнароднае канфэрэнцыі ў Беларусі, дзе яна прадэманстравала сярод іншага, сваё выдатнае валоданьне беларускай мовай. Сябры Таварыства гатовыя да супрацоўніцтва з зацікаўленымі асобамі на ніве беларусаведы. Пісаць і пасылаць сьвежыя публікацыі трэба на адрас: Dr. Nina Brederlow. Weissrussische Kulturgesellschaft, Universitaet Potsdam, Institut fuer Slavistik, Postfach 60 15 53, 14415 Potsdam.

## ЮБІЛЕЙ ГОРАДЗЕНСКАЙ «ПАГОНІ»

У студзені сёлета тыднёвая газэта «Пагоня» адзначыла выхад свайго сотага нумару. Два гады таму «Пагоня» пачала выходзіць як «Рэгіянальны агляд: Горадня – Вільня – Беласток». З другой палавіны леташняга году яна ўжо — «Заходнебеларуская грамадзка-палітычная газета». Разам са сваёй менскай сястрой «Свабодай» гэта адна з найлепшых крыніцаў інфармацыі і ацэнак таго, што дзеецца ў Беларусі. Газэта стаіць на варце беларускае дзяржаўнасьці, добра рэдагуецца і хораша аформлена графічна. Ейны рэдактар Мікола Маркевіч напісаў у юбілейным сотым нумары:

«Сто тыдняў... Мы многае перажылі разам з Вамі за гэты час. Пасталелі, вырасьлі... Больш чым у 10 разоў павялічыўся за гэты тэрмін наклад газэты! Па выніках падпісной кампаніі мы падвоілі лік сваіх падпісчыкаў. Агульны лік сталых сяброў 'Пагоні' складае цяпер амаль 1600 чалавек. 100 тыдняў назад не было ніводнага, як ня было і самой 'Пагоні'.»

Газэта «Беларус» далучаецца да ўсіх, хто віншаваў «Пагоню» зь ейным юбілеем, жадае рэдакцыі далейшага росту і ўсякае памыснасьці ў працы на ніве свабоднага беларускага слова ды заклікае ўсіх сваіх чытачоў усяляк падтрымваць гарадзенскую трыбуну вольнае беларускае думкі.

Адрас газэты: «Пагоня», 230023 Горадня, вул. Дамініканская, 1. Тэл.: 45-29-96, 45-41-83.

## РОСТ РЭЛІГІЙНЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ У МЕНСКУ

«Калі ў 1990 годзе ў Менску дзейнічала ўсяго 11 рэлігійных абшчын шасьці канфэсіяў, працавалі дзьве праваслаўныя царквы, адзін каталіцкі касьцёл, сынагога і тры малітоўныя дамы, дык сёньня ў нашым горадзе 72 рэлігійныя арганізацыі 25 канфэсіяў, зарэгістравана дадаткова 40 абшчынаў. Шырока распаўсюдзіліся дзіцячыя нядзельныя школы, курсы і лекторыі вывучэньня Біблії, хрысьціянскія фэстывалі і сьвяты. Цераз рэлігійныя арганізацыі з-за мяжы ідзе вялікі паток дабрачыннай і гуманітарнай дапамогі».

*(З інтэрв'ю з А. Герасіменкам, старшынём менскае гарадзкое рады. «Народная газета», 8.II.95)*

## 31-Я ПАЛІТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ — ГРАМАДЗЯНСКАЯ

У сьнежні летась у Беларусі аформілася арганізацыйна яшчэ адна партыя — Грамадзянская, зарэгістраваная як 31-я грамадзка-палітычная арганізацыя рэспублікі. Сустаршынямі партыі сталіся бізнэсмэн Васіль Шлындзікаў, рэктар Бабруйскага недзяржаўнага інстытуту кіраваньня Мікалай Бабрыцкі і ведамы драматург Аляксей Дудараў. У заяве аргкамітэту Грамадзянскай партыі сярод прынцыпаў пералічваюцца і гэткія:

«Мы — за Беларусь як раўнапраўнага партнэра у сусьветным грамадзтве, за захаваньне нэўтралітэту і няўдзелу ў ваенных канфліктах. ...

«...Нас аб'ядноўваюць не паходжаньне і этнічнае сваяцтва, а агульная гісторыя нашае зямлі, агульныя праблемы выжываньня і будаўніцтва дзяржавы, якая бароніць правы і ўласнасьць кожнага.

## МАМЭНТЫ З ЖЫЦЬЦЯ МІКОЛЫ РАВЕНСКАГА

Аб кампазытары Міколу Равенскім у беларускім эміграцкім друку напісана нямала: пачынаючы ад «Беларускага Работніка» (Бэрлін, 1943-44), аб ім друкаваліся матар'ялы ў газэтах



*Студэнцкі хор М. Равенскага выступае ў гор. Малін у Бэльгіі. 1952 г.*

цель Міколы Равенскага, удала назваў кампазытара *Лірнікам Краіны Ветлай*, — бо калі пачне вывучацца жыцьцёвы й творчы шлях Міколы Равенскага, выдрукаваныя матар'ялы будуць добрым дапаможнікам. З думкай дадаць крыху дэталяў аб жыцьці Міколы Равенскага на розных этапах эміграцкага шляху напісаныя й гэтыя нататкі.

Я пазнаёміўся з кампазытарам Равенскім увосень 1945 году ў горадзе Рэгенсбургу. Прыпамінаю, як у Беларускі Камітэт на Маршаль Штрассэ, дзе ў той час знайшлі прытулак, ці мо правільней — месца для пераначаваньня колькі дзесяткоў юнакоў і юначак, прыйшоў, як мне тады здалося, немалады ўжо чалавек, прадставіўся, што ён — Мікола Равенскі і што ў яго паўсталі нейкія адміністрацыйныя праблемы ды яму быў патрэбны нехта, хто-б гаварыў ці па-нямецку, ці па-ангельску. Паколькі прозьвішча Равенскага было мне знаёмае зь сямейных гутарак, я адразу прапанаваў яму сваю дапамогу. Па дарозе ў адпаведнае бюро мы разгаварыліся і я яму расказаў, што аб ім часта гаварыла мая маці, бо яна ў дваццатых годах у Менску сьпявала ў хоры У. Тэраўскага, а хор Міколы Равенскага быў як-бы канкурэнтам хору Тэраўскага, дык харысты



*Хор М. Равенскага ў Парыжы зь беларусамі-парыжанамі ў 1952 годзе. Стаяць у першым радзе: пасярэдзіне (з капялюшом у руках) Старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык, налева ад яго сп-ня Ніна Абрамчык, жонка, і кампазытар М. Равенскі. Крайні справа (у чорным) — а. Леў Гарошка. Другі зьлева (у плашчы) — паэт Алесь Змагар (Яцэвіч).*

«Бацькаўшчына», «Беларускае Слова», «Беларус» ды часапісах: «Наперад!», «Беларускі Сьвет», «Запісы БІНІМу», «Беларуская Моладзь» і іншых. Апошнім часам пра Міколу Равенскага пісалі часьцей былыя студэнты зь Лювэну. Зора Кіпель падзялілася ўспамінамі аб тым, калі ўпяршыню была прасьпяваная малітва «Магутны Божа»; Янка Запруднік і Янка Жучка адказалі на беспадстаўныя й абразьлівыя ў адрас студэнтаў-лювэнцаў закіды аб неадпаведным трактаваньні кампазытара Равенскага ў Лювэне. Успамінамі аб Равенскім падзяліўся Ўладзімер Бакуновіч.

Шчыра кажучы, добра, што друкуюцца матар'ялы аб гэтым выдатным беларускім лірніку — прафэсар Антон Адамовіч, даўгагадовы блізкі прыя-

добра ведалі ўсякія дробязі ды закулісныя справы. З нашае гутаркі таксама высьветлілася, што Равенскі сустракаўся ў тыя часы і з маім бацькам у школьнай сыстэме гораду. Выявілася гэтаксама, што мы мелі і шмат агульных знаёмых.

Зь пяцідзесяцігадовае рэтраспэктывы скажу маладзейшым, што ў тыя эміграцкія часы гэткая зямляцкая супольнасьць адразу моцна зьбліжала людзей, землякі туліліся, верылі й дапамагалі адзін аднаму, а ўзроставыя «дэталі» ня мелі ніякага значэньня. І вось з таго часу, калі заходзіла якая небудзь патрэба, сп. Равенскі часта зварачаўся да мяне. Дарэчы, мы, тады зусім маладыя, інакш і не называлі кампазытара як «спадар Равенскі», а ён усіх маладзейшых называў «золатцам» (харысты сп. Равенскага добра памятаюць ягона выраз: «Золатца, золатца, ды куды-ж Вы цягнеце?»).

Калі-ж напрыканцы 1945 году быў арганізаваны беларускі лягер у селішчы Ганггофэр Зідлюнг, апеку над Міколам Равенскім мела сям'я Дашкевічаў, зь якое Юрка, Каця й Лена Дашкевічы дапамагалі бадай найболей, а сп. Равенскі гэтую апеку вельмі цаніў і падкрасьляў.

*(Працяг на 6-й ст.)*

«Мы — за адраджэньне і разьвіцьцё беларускай культуры, шанаваньне гісторыі Беларусі... Мы — супраць любой дыскрымінацыі і прымусу ў моўнай сфэры. Грамадзяне павінны мець права выбіраць мову ўзгадаваньня і навучаньня сваіх дзяцей. Веданьне беларускае мовы для дзяржаўных службоўцаў абавязкавае, яна абавязкавая і для вывучэньня ўва ўсіх школах рэспублікі». (*«Нар. газ.»*, 13.XII.94)

# ГАЛАСЫ ПАЭТАЎ НА СЁНЬНЯШНІ ДЗЕНЬ

*Ад Рэдакцыі: Мы зьвярнуліся да беларускіх паэтаў, што жывуць у Нью-Ёрку і навакольлі, з просьбай даць нам для сакавіковага нумару газэты па два вершы з новых ці ўжо апублікаваных, у якіх адлюстроўваўся-б найбольш адпаведна настрой аўтараў у сучасны мамэнт. Зьмяшчаем атрыманае або названае са зборнікаў і адначасна выказваем аўтарам вершаў шчырую падзяку за супрацоўніцтва.*

**Натальля Арсеньнева**

### ГОДЗЕ!

*Ціха клёны лісьцё наземяць,*
*паражыўшы сваё*
*на сьвеце...*
*Ці-ж, як мы тут, журбой асеньняй*
*будуць песьціцца й нашы дзеці?*
*Дзіўна-ж сум нам уеўся ў косьці,*
*неяк самі хінуцца сьпіны,*
*хай бадзёрымся часам: «досыць»!*
*Пятушымся: «Нас не запыняць!»*
*А паціху — і той закіне,*
*ну, і гэты ў радкі уцісьне:*
*«Край наш ніцы, дзяды, дзяды мы,*
*не дае лёс нам шчасьця высьніць!*
*Век нам муляе карак зрэб'е,*
*мы ў лапцёх пагнаілі ногі,*
*на застольлях у нас —*
*бясхлеб'е,*
*пазьбівала бяда нарогі...»*
*Годзе!*
*Годзе нарэшце,*
*годзе*
*чарвякамі зьвівацца, поўзаць!*
*Хоць нас доля й дагэтуль зводзіць,*
*хоць ісьці нам парой і коўзка, —*
*насьмяёмся яшчэ і зь ліха!*
*Досыць падаць прад кажным*
*ніцма!*
*Лепш на момант*
*агнём успыхнуць,*
*чымся літасьцяй век давіцца!*
*Што далі нам калі чужыя?*
*Ці калі, хто — наш плач усьцішыў?*
*Дось!*
*Напружым пастронкі жылаў,*
*самі злыбяды нашы скрышым!*
*Ціха клёны лісьцё наземяць,*
*Паражыўшы сваё на сьвеце.*
*Не,*
*ня будуць журбой асеньняй*
*так, як мы тут, смуціцца дзеці!*

1942

**Заўвага:** За верш гэты немцы ледзь не арыштавалі паэтку. Выратавала яе ад арышту Юльляна Дубейкаўская, перакладчыца, якая ўгаварыла немцам, што пад «чужынцамі» трэба разумець бальшавікоў.

### ПЕСЬНЯ КАЛІНОЎЦАЎ

*Палыном і быльлём парасьлі нашы*
*нівы,*
*як ні б'ёмся, ні гнёмся над імі у крук,*
*плён адвеку чужынцы зьбіраюць, ня*
*дзіва,*
*што канае народ твой і ты,*
*Беларусь!*
*Але годзе!*
*Мы ўстанем!*
*Ціхім раньнем, на ўсходзе,*
*ссыплем, згорнем у шапкі залатую*
*зару*
*і ў сталёвым ад кос і ад песьняў*
*паходзе*
*возьмем волю сабе і табе,*
*Беларусь!*
*Каліноўскі нас кліча і агніста й*
*зацята,*
*на змаганьне за сьвята для*
*мазолістых рук,*
*за зямлю для аратых,*
*і за сонца у хатах,*
*за увесь твой народ, за цябе,*
*Беларусь!*
*Дык ударма, як гром, дык лінем*
*навальніцай,*
*дык праб'емся-ж крыніцай*
*спад зямлі угару,*
*каб мядзянай пшаніцай мог зігцець-*
*каласіцца*
*наш загон, і бязьмежжы твае —*
*Беларусь!*
*Гэй, сьмялей, гэй, далей,*
*не лякаймася сьмерці!*
*Нашы целы і славу сыны падбяруць,*
*Хоць і зложым на пожнях гарачыя*
*сэрцы,*
*але ты будзеш жыць і расьці,*
*Беларусь!*

Менск, 1942
(Зб. «Між берагамі». 1979)

**Масей Сяднёў**

### ПАЯДЫНАК ЗЬ СЬМЕРЦЯЙ

...смертію смерть поправъ...

*«Як адзін у мяне вы наўме.*
*Я ў намеры сваім неадступна!» —*
*Штохвіліны на Калыме*
*падступалася Сьмерць падступна.*

*Ці на могільнікі, ці ў лёх,*
*усіх тых, што скасіла,*
*на высокіх санёх,*
*дбайная, вывазіла.*

*Яд Яе бараніўся, як мог,*
*і вымольваў санкцыі.*
*Ды ніяк ня мог*
*ад Яе адкасацца.*

*У вачох — мітульга,*
*але Ёй усё замала:*
*ненажэрная, як мага,*
*клёк зь мяне смактала.*

*Не паддаўся Ёй такой!*
*Зацяты, няўмірушчы,*
*у забоі кіркой,*
*Касьлявую, раструшчыў.*

..........................................

*Шчэ стаю я ў страю,*
*у вачох сьвецяць бліскі.*
*Ды прад Ёю стаю*
*небясьпечна блізка.*

1995

### СТАРОЕ НЯ ЎМІРАЕ

*Старое ня ўмірае. У нямпамяць*
*не адыходзіць — сьвеціцца ўваччу.*
*Свае — шчэ не забытыя — напамяць*
*старыя вершы мырмычу.*

*У іх усё — і боль, і роспач,*
*часін шчасьлівейшых выток,*
*пяра майго імклівы рошчырк,*
*паветра навальнічнага глыток.*

*Зайздрошчу тым радком і веру*
*няхібнасьці свайго радка.*
*Выводзіла іх на паперы,*
*здаецца, не мая рука.*

*Я трошкі імі ганаруся —*
*ці-ж падумаць калі сьмеў,*
*што ў маёй ціхай Беларусі*
*і мой пачуюць ціхі сьпеў?*

*Сябе ніяк не паравершыш —*
*мінулае адсьвечвае ўваччу.*
*Свае забытыя, старыя вершы*
*Я ўсё, нібы малітвы, мырмычу.*

1993

*Уладзімер Дудзіцкі.* ***Напярэймы жаданьням. Збор твораў.*** *Рэд. Лявон Юрэвіч. Выд. БІНіМ, Нью-Ёрк, 1994. 313 сс.*

**Міхась Кавыль**

### СЬЦЕРАЖЭЦЕ, БРАТЫ!

*Ад Рэйгенавай абароннай зброі*
*Затрашчалі «імпэрыі зла» устоі.*

*«Свабоды» стрэлы, гострыя,*
*Білі ў пячонкі монстра.*

*Ды і мы не сядзелі ціха:*
*Распраналі чырвонае ліха.*

*І Мікіта пад дыхаўку хвацка*
*Садануў «перагібамі» зьнянацку.*

*Бяз крыві, бяз залпаў «Аўроры»*
*Паляцелі затычкі, запоры.*

*І «імпэрыі зла» стала млосна.*
*Гарбачоў даў панюхаць*
*«галоснасьць».*

*Ад такой сыноўняй «дапамогі»*
*Выцягнула «імпэрыя зла» ногі.*

*На паховінах у пушчы Белавежы*
*Адхапіла Беларусь незалежнасьць.*

*Цуда з цудаў стала,*
*Якога ня бывала.*

*У вышніх Богу слава,*
*А на Беларусі –*
*Шушкевічу Станіславу!*

*Я сягоньня вельмі рады,*
*Што ў Менску на Доме ўраду,*

*На месцы гэрбу, бальшавіцкага,*
*Скача на белым кані рыцар...*

*Што ў крыві, ў сьлязах пакупаны,*
*Шуміць Сакавік, у бел-чырвона-белае*
*ўбраны...*

*Што сьпяваюць «Сябры»: «Нашыя*
*жаўнеры*
*Сьцерагуць родны Край*
*ад чужой халеры...»*

*Сьцеражэце, браты, бо здраднікаў*
*кодла*
*Прадае Беларусь «Матушцы»,*
*подла!...*

1995

* * *

*Сьпякотнай пугай палыснуў пярун —*
*Пярэстай хмары трэснулі пастронкі.*
*Па гонтах град лупцуе, ў перагонкі*
*Лятуць вятры, вясёлыя, угрунь.*

*Іграе сонца на мільёнах струн,*
*Азонам душыць у бары сасонкі.*
*Ярыла, добры, ў цёплыя пялёнкі*
*Ахутаў шчэпы маладыя, рунь.*

*Мурзаты сьнег схаваўся на узьлеску.*
*Прад сьмерцю сіліцца зьнявечыць ён*
*Красы пяршуньню, сінюю пралеску.*

*Сівы дзівак! Твой белы прах растане.*
*Ў зялёным княстве сьні апошні сон:*
*Цьвяты вясна кунежыць на кургане.*

1957
(Зб. «Цяжкія думы». Санэты. 1961)

**Янка Золак**

### РОДНЫМ

*Ліхалецьце вайну нарадзіла*
*І пагнала мяне ў край другі.*
*Каб вярнуцца да вас, на Радзіму,*
*Ня пускалі мяне ланцугі.*

*А цяпер ланцугі паслабелі,*
*І зьмяніўся на лепшае час.*
*Я чакаю пагоднай нядзелі,*
*Каб прыехаць у госьці да вас.*

4 лютага 1990 г.

### ВЯТРЫСКА З РАДЗІМАЙ КРАІНЫ

*Праз моры, вазёры, праз шыр*
*акіянаў,*
*Праз гораў хрыбты, праз даліны*
*Да нас прылятае, як госьць наш*
*чаканы,*
*Вятрыска з радзімай краіны.*

*І подых ягоны, як дотык*
*пяшчотны*
*Матулі, у годах дзяцінных;*
*Лагодзіць наш боль, суцяшае*
*самотных*
*Вятрыска з радзімай краіны.*

1961 г.

**Янка Юхнавец**

### СЬЦЮДЗЯНІЦЬ...

*Сьцюдзяніць за горамі спакой і змрок.*
*а словы круцяцца адсьветам дня —*
*і ціхай мернасьці яшчэ ня змоўк*
*стук сэрца і глыбіня,*
*што сьніцца ў начох вясьняных.*

*Цісьнецца яна і ласкаю і кругам*
*і сьлепіць чарам разбуджаную*
*жарсьць,*
*і сэрца робіцца вяршалінай натугаў*
*скінуць камень: каб высіцца й*
*стаяць.*

*Але за горамі сьцюдзяніцца змрок.*
*І каменем нямее водбліск дня:*
*у шпаркасьці абвалу ён замоўк —*
*шуміць у долах падмывамі вясна.*

1951

* * *

*У вогнішчы крылы вецер не зьнявеціў*
*мкне далей, у поле, да гушчыні лясоў,*
*памятна з пажарышчаў попел*
*зьвеяўшы,*
*людзём іхнай песьні не знайшоў.*

*Буйнее іхны гнеў. У подзьмухі хісткія*
*ветру*
*патаемным шэптам ня скардзяцца*
*яны.*
*Небакрай аціх. У ціхаце далёкай*
*ён поўны ведамак і сьмерці й*
*жыцьця...*

*Вочы застыглыя, што спраглі быць*
*жыцьцём.*
*Сэрца б'ецца ў суравым гомане,*
*у тых, хто раны палічыў свае,*
*пад скраткамі адвечнае свабоды.*

1956
(Зб. «Сны на чужыне». 1994)

## КАНФЭРЭНЦЫІ Ў МЕНСКУ

У травені сёлета ў Менску адбудуцца канфэрэнцыі:

**16-18 травеня** — зьезд Міжнароднай Асацыяцыі Беларусістаў (пленарныя сэсіі і круглыя сталы, справаздачна-перавыбарчае паседжаньне). На зьезьдзе будуць абмеркаваныя такія тэмы, як культурнае ўзаемадзеяньне з суседзямі, лёс беларускіх каштоўнасьцяў у часе Другой сусьветнай вайны і інш.

**18-19 травеня** — 2-я нацыянальная канфэрэнцыя «Праблемы беларускай навуковай тэрміналёгіі».

**19-20 травеня** — 2-я міжнародная навуковая канфэрэнцыя «Ісламская культура татараў-мусульман Беларусі, Літвы, Польшчы і іх узаемадзеяньне зь беларускай і іншымі культурамі».

**Сяржук Сокалаў-Воюш**

* * *

*Гэй! Наперад! Да кайданаў!*
*Гэй! Мацуй ланцуг іржавы!*
*І з Масквою край забраны*
*Будзе жыць, як жыў з Варшавай!*

*На халеру тая воля? —*
*Тая собская улада?*
*Пры любой уладзе ў полі*
*Цётка поўзае па градах,*
*Дзядзька п'е, малыя плачуць,*
*Але жваць прывыклі жвава,*
*Дык... ці-ж можа быць іначай?*
*Гэй! Мацуй ланцуг іржавы!*

Господином *быць, ці панам,*
*Спадаром бо лёс ня судзіць.*
*Гэй! Наперад! Да кайданаў!..*

*Попел прдкаў б'еца ў грудзі...*

1995

### *КРОТ*

(Варыянт Рэдакцыі)

Прысьвячаю А. Лукашэнку

Народ беларускі, народ!
Ты — цёмны, сьляпы, быццам крот.

**Максім Багдановіч**

*Крот.*
*Крот!*
*Крот?...*

*1995*

**Леанід Пранчак**

* * *

*Адвечны шум зажураных бяроз*
*Плыве над сьветам, над сьцішэлым*
*полем...*
*Адно каханьне варта нашых сьлёз,*
*Адно каханьне — і нічога болей!*

*Растане роспач, як асеньні сьнег.*
*Асеньні сьнег твайго зачараваньня.*
*Сярод грахоў ёсьць самы цяжкі*
*грэх, —*
*Калі душа ня ведае каханьня.*

*Пажоўклы ліст на сьцежку упадзе.*
*Асеньні лес разьвітаецца*
*зь летам...*
*Адно каханьне робіць з нас людзей,*
*Адно каханьне правіць гэтым*
*сьветам.*

*Мой сьветлы сум як гэты сьвет*
*стары.*
*Баліць душа, журбой*
*перахварэўшы.*
*Зграе ноч у полымі зары.*
*Праходзіць боль, — ды застаюцца*
*вершы...*

Люты 1995

### *ТУМАН І ДЫМ*

*У гэтым горадзе чужым,*
*Які мне быў учора блізкім, —*
*Туман і дым, туман і дым.*
*І спакаваныя валізкі.*

*У гэтым горадзе чужым*
*Я выпадковы і нязнаны.*
*Мне забыццём бінтуюць раны*
*Туман і дым, туман і дым.*

*Туман — абложны, дым — густы.*
*Я забываю ўсё благое.*
*Туман і дым — маё былое.*
*Маё цяперашняе — Ты!*

*У гэтым горадзе чужым*
*Больш заставацца немагчыма.*
*Туман і дым — мая Радзіма.*
*І толькі Ты — адна — ня дым...*

Сьнежань 1992

*З жыцьця ў Саўт-Рывэры, Н.-Дж.*

## ВЕЧАР ДАПАМОГІ ЧАРНОБЫЛЬЦАМ

У суботу 18 лютага адбыўся другі гадавы дабрадзейны вечар у Фонд Дапамогі Дзецям, што пацярпелі ад чарнобыльскае радыяцыі. Спонсарам вечара быў Беларуска-Амэрыканскі Грамадзкі Цэнтр у Саўт-Рывэры, у залі якога і адбыўся вечар.



*Прамаўляе пасол РБ пры ААН сп. А. Сычоў, справа — сп. Усевалад Цупрык.*

Дзякуючы добрай падрыхтоўцы і асабліва самаахвярнай працы жанчын на чале з Соняй Арцюшэнка, шматлікія мясцовыя гандлёвыя прадпрыемствы ахвяравалі даволі дарагія фанты на лятарэю і прадукты на вячэру. Многія адзыўчывыя на бяду людзі прыслалі свае грашовыя ахвяраваньні з далёкіх ад Саўт-Рывэру мясьцінаў, як штаты Мэйн і Флярыда, Каліфорнія і Норт-Каралайна. Усім ім шчыры дзякуй!

Ганаровымі гасьцьмі на вечарыне былі: Яго Эксцэленцыя Аляксандр М. Сычоў, пасол Рэспублікі Беларусь пры ААН, першы сакратар беларускага пасольства пры ААН сп. Юры Аранж, мэр гораду Саўт-Рывэру сп. Томас Тото з гарадзкімі раднымі, прадстаўнікі гарадзкое дэмакратычнае і рэспубліканскае партыяў.

З прынагоднай прамоваю да прысутных зьвярнуўся сп. А. Сычоў.

Шчырая падзяка належыцца Джыму Бычкоўскаму за добрую аркестру, за беларускія песьні і танцавальныя мэлёдыі. Шчырая падзяка належыцца жанчынам, якія прыгатавалі багаты абед. Шчырая падзяка ўправе Цэнтру за ахвяраваную з абодвух бараў выручку зь вечара.

Умела вёў вечар сп. Усевалад Цупрык. Чысты даход з вечарыны — 10 тысячаў даляраў. Арганізатары вечарыны выказваюць шчырую падзяку ўсім тым, хто сваёю прысутнасьцю, а хто ахвяраваньнем спрычыніўся да посьпеху вечара.

**М. Сенька**

## НОВЫЯ ЗНАЁМСТВЫ ЗЬ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРАЙ

Пачынаючы ад верасьня мінулага году, новая публіка стала азнаямляцца зь беларускай музычнай культурай. Марыя Паўля Сурвілла праз сваю акадэмічную дзейнасьць і сэрыю дакладаў (прачытала ўсіх дзевяць) дзеліцца з рознымі аўдыторыямі сваімі ведамі, якія яна здабыла падчас дасьледніцкай працы ў Беларусі. Ейныя студэнты Гуманістычнага аддзелу Вартбургскага каледжу ў штаце Аёва з энтузіязмам і цікаўнасьцяй успрымаюць беларускую традыцыйную і сучасную музыку. Марыя Паўля закранае ў сваіх выкладах і дакладах пытаньні зьвязаныя зь беларускай экалёгіяй, сям'ёй, грамадзтвам і ўзаемакамунікацыяй. У дадатак, ейныя лекцыі на іншых факультэтах, як запрошанага выкладчыка, спрычыняюцца да пашырэньня ведаў пра Беларусь як сярод студэнтаў, гэтак і сярод выкладчыкаў.

4 сакавіка сёлета Марыя Паўля прачытала даклад на тэму «Русалкі і сьпевакі року: жанчына, аўтарытэт і зьмены ў сучасным беларускім музычным выяўленьні». Даклад быў прачытаны на гадавой канфэрэнцыі жанчынаў штату Аёва, якая адбылася ў Вартбургскім каледжы. Заінтрыгаваная аўдыторыя азнаёмілася як зь беларускай традыцыйнай музыкай і месцам жанчыны ў ёй, гэтак і беларускім рокам. Прыемна было заўважыць, што слухачы выявілі зацікаўленьне беларускай музыкай. Асабліва настойлівымі былі студэнты, распытваючы пра сучасныя рок-групы «Уліс», «Палац», «Неба», «Мроя», і «Крама» ды выказваючы захапленьне іхнай музыкай. Маладыя слухачы ня ставілі гэтыя групы ў нейкі экзатычны кантэкст, а ўспрыймалі іхную музыку як-бы слухалі добры амэрыканскі рок. Беларуская мова выканаўцаў ня была перашкодай — англамоўная публіка выявіла эмацыянальны і інтэлектуальны водгук на музыку. Марыя Паўля плянуе наладзіць перадачу музыкі праз радыё ў надзеі, што гэта спрычыніцца да выступленьня беларускіх рок-групаў у ЗША і Канадзе.

Марыя Паўля Сурвілла, якая наладзіла была выстаўку сваіх фатаграфіяў зь Беларусі на 21-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Таронта, будзе мець падобныя выстаўкі ў штаце Аёва. Першая зь іх адбудзецца ў рамках Тыдня вывучэньня экалёгіі сьвету, які будзе праведзены ў Вартбургскім каледжы ў канцы сакавіка сёлета. Другая, больш поўная, плянуецца на восень 1995 году. На ёй будуць паказаныя 60 фатаграфіяў, зробленыя падчас дасьледніцкай працы ў Беларусі.

**Эрык Вахман**

***«ЗБОРНІК ПЕСЬНЯЎ КАМПАЗЫТАРА ЗЬМІЦЕРА ЯЎТУХОВІЧА».*** Нью-Ёрк – Саўт-Рывэр: выданьне часапісу «Беларуская Думка», 1994, 48 сс., ілюстрацыі.

У добрым графічным афармленьні зборнік зьмяшчае ў сабе 40 патрыятычных, лірычных і дзіцячых песьняў таленавітага маладога кампазытара Зьміцера Яўтуховіча на словы розных беларускіх паэтаў. У зборніку ня толькі ноты і словы, але й кароткія паясьненьні да часу і абставінаў паўстаньня тае ці іншае песьні. Сьпеўнік і дзьве аўдыёкасэты зь песьнямі З. Яўтуховіча можна набыць, пішучы на адрас: Bielaruskaya Dumka, P.O. Box 26, South River, NJ 08882.

*З жыцьця ў Нью-Ёрку*

## СУСТРЭЧА З НАМЕСЬНІКАМ РЭДАКТАРА «НАРОДНАЙ ГАЗЕТЫ»

У часе свайго трохдзённага побыту ў Нью-Ёрку сп. Аляксандар (Саша) Класкоўскі, намесьнік галоўнага рэдактара «Народнай газеты» Іосіфа Сярэдзіча, выкраіў крыху часу на сустрэчу зь ньюёркскімі беларусамі, каб расказаць ім пра апошнія падзеі на Бацькаўшчыне. Сустрэча адбылася ў сыботу 4 сакавіка ў Фундацыі імя П. Крэчэўскага.

Пакуль аўдыторыя чакала на прыбыцьцё крыху запозьненага госьця, журналіст Леанід Пранчак, аўтар сьвежае кнігі «Беларуская Амерыка» (у працэсе апрацоўкі цяпер «Беларуская Амерыка-2»), цікава расказаў пра сваю работу над кнігай і пэрыпэтыі ейнага выданьня, адказаў на шматлікія пытаньні. (Кнігу можна набыць у аўтара, як пра гэта паведамлялася ў папярэднім нумары «Беларуса».)

Сп. Класкоўскаму дапамог прыбыць на вечар ньюёркскі карэспандэнт «НГ» і цяперашні жыхар Нью-Ёрку сп. Уладзімір Левін. У сваім выступленьні госьць расказаў коратка пра эканамічныя цяжкасьці Беларусі і даволі складаны палітычны стан. Прадказваць вынікі сёлетніх парляманцкіх выбараў дакладчык ня ўзяўся, але сярод розных варыянтаў назваў і магчымасьць прыходу да ўлады «яшчэ горшых ваўкоў».

З пазытыўных мамэнтаў беларускае рэчаіснасьці сп. Класкоўскі падкрэсьліў рост у рэспубліцы здаровых інтэлектуальных сілаў, частка якіх згуртавалася ў новай асацыяцыі «Геапалітыка. Інтэграцыя. Прагрэс». Асацыяцыя гэтая правяла нядаўна ў Менску «Нацыянальную асамблею прагрэсыўных сіл», на якую зьехалася больш за паўтары тысячы ўдзельнікаў. Пішучы пра асамблею ў «НГ» (24.II.95), А. Класкоўскі зазначыў, што «ўсе ўдзельнікі сышліся ў галоўным: шлях да лепшай будучыні Беларусі ляжыць праз умацаваньне яе незалежнасьці, усталяваньне дэмакратычнай прававой дзяржавы і сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі».

Слухачы былі вельмі радыя сустрэчы і падчас супольнага пачастунку шчыра дзякавалі дакладчыкам, спсп. Пранчаку і Класкоўскаму, за багаты на інфармацыю вечар.

**Я.З.**

## ПЕРАДАЧА МЕНСКУ АРХІВАЎ БНР

Нямецкае міністэрства замежных справаў перадало Беларусі архіўныя матар'ялы, якія датычаць дзейнасьці Рады БНР і БССР у пэрыядзе 1920-1928 гадоў. Справа перадачы матар'ялаў была запачаткаваная яшчэ ў травені 1994 г. былым міністрам Беларусі П. Краўчанкам. Паведамляючы пра цырымонію перадачы матар'ялаў, якая адбылася ў беларускім МЗС 14 лютага сёлета, газэта "Звязда" піша:

«Паводле слоў старшыні Камітэту па архівах і справаводству Аляксандра Міхальчанкі, атрыманыя дакумэнты маюць вялікае значэньне для ўсебаковага вывучэньня нашай гісторыі. Актуальнасьць ім надае і той факт, што па розных прычынах многія дакумэнты аб гэтым пэрыядзе гісторыі Беларусі не захаваліся. Матар'ялы падрабязна адлюстроўваюць разьвіцьцё адносінаў паміж БНР і Германіяй, зьмяшчаюць аналітычныя і даведачныя зьвесткі аб становішчы Беларусі, карты рэспублікі тых гадоў».

## ШЛЮБ ЛАРЫСЫ ХРЭНОЎСКАЙ



*17 верасьня летась дачка спадарства Хрыстыны і Анатоля Хрэноўскіх, Ларыса, выйшла замуж за Марка Андрэя Роя, сына Эдыты і Жана Клёда Рояў. Царкоўная цырымонія адбылася ў украінскай катэдры Сьв. Сафіі ў Манрэалі з удзелам трох духаўнікоў: Яго Высокапрэасьвяшчэнства Мітрапаліта БАПЦ Мікалая (які служыў па-беларуску), дастойнага а. Ігара Куташа (служыў па-француззску) і а. Пятра Бойкі (служыў па-ўкраінску). Сярод 300 гасьцей застольля былі паважаныя народны дэпутат беларускага парляманту сп. Алесь Шут, фатограф-карэспандэнт газэты «Звязда» Анатоль Кляшчук, і старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады сп. Мікола Ганько з жонкай Марыяй. Усё прайшло вельмі добра ў прыемнай атмасфэры.*

*Ліст у Рэдакцыю*

## ЗАПРОСІНЫ Ў ЭСТОНІЮ

Паважаны спадар Запруднік!

Ад імя агульнага сходу сяброў нашага «БЭЗу» шчыра віншую Вас, а таксама усіх чытачоў «Беларуса» са сьвятам 77-ых угодкаў Дня Волі! Наш агульны сход жадае ўсім сваім землякам за акіянам добрага настрою, выдатнага здароўя і плённай працы на карысьць нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны, нашай роднай Беларусі!

Аб нашым жыцьці ў Эстоніі я могбы напісаць шмат, але ня ведаю, ці будзе ўсё гэта Вам цікава. Ужо мабыць з год, як я накіраваў Вам сваё невялікае апавяданьне «Прадзедаўскі спосаб», а таксама фотаздымак і артыкул аб нашай роварнай вандроўцы на эстонскі абток Хіюма. Спадар Аляксандр Міцкевіч рэгулярна дасылае нам па 6 нумароў «Беларуса», якія мы падшываем у чытальнях трох эстонскіх горадоў — Йыхві, Ківіылі і Кохтла-Ярве. Сваіх матэрыялаў на старонках газэты я так і ня ўбачыў. Буду лічыць, калі атрымаю ад Вас ліст з пацьверджаньнем, што яны недзе ў чарговы раз згубіліся.

18 лютага БЭЗ правёў у горадзе Йыхві сваю чарговую вечарыну, на якой прысутнічаў консул Рэспублікі Беларусь у Эстоніі спадар Янка Бондар. Праз тры тыдні мы павязем на Беларусь эстонскі маладзёжны харавы калектыў, які выступіць альбо ў Менску, альбо ў Гомелі.

Карыстаючыся чарговай нагодай (ці-ж не дарэмна?) і запрашаю праз Вашу газэту ўсіх жадаючых брацьць удзел у нашай наступнай роварнай вандроўцы, якая мае адбыцца ў канцы чэрвеня і працягнецца ад горада Ківіылі да заходняга ўзьбярэжжа Эстоніі — і далей на яе маляўнічыя і дзікія абтокі Сарэма і Хіюма. Пісаць наконт удзелу у вандроўцы трэба мне ў Ківіылі. Вандроўка, як і заўсёды, пройдзе пад бел-чырвона-белым сьцягам і ў нацыянальным беларускім адзеньні. Хоць часу яшчэ і шмат, але гэта толькі здаецца і таму цягнуць з заяўкамі няма сэнсу.



*Сябры суполкі «БЭЗ» (зьлева): Дзіма Разанка, Янка Дрозд, Лявон Белякоў і Ўладзімір Дзехцярук.*

Вось пакуль і ўсё. Буду вельмі спадзявацца, што гэты ліст патрапіць Вам ў рукі, а таму рызыкну пакласьці ў канвэрт і адзін з сваіх апошніх вершаў. Зборнік маіх вершаў, у які ўвойдзе таксама некалькі апавяданьняў, плянуецца да выданьня ў Эстоніі ў травені гэтага году. У сувязі зь яго выданьнем у нас тут будзе шмат праблем, але мы ўпэўнены, што пераадолеем іх.

Усяго Вам найлепшага!

*Эстонія, Ківіылі, 5.III.95*

**Уладзімір Дзехцярук**
**EE 2040, Kiviõli, Pargi 5a-25**
**Vladimir Dehteruk, ESTONIA**

# З ЖЫЦЬЦЯ М. РАВЕНСКАГА

*(Заканчэньне з 3-й ст.)*

Да рэгенсбургскага пэрыяду эміграцкага шляху адносіцца і пачатак паваеннай шырокай грамадзка-навучальна-творчай працы Міколы Равенскага. У Рэгенсбургу напрыканцы 1946 году зь ініцыятывы і дзякуючы дзейнасьці а. Мікалая Лапіцкага была заснаваная беларуская праваслаўная парафія Сьвятое Еўфрасіньні Полацкае. У гэтай парафіі Мікола Равенскі быў арганізатарам і рэгентам царкоўнага хору. Службы й сьпеўкі спачатку адбываліся ў Беларускім Камітэце, а пазьней, калі на селішчы была збудаваная й асьвечаная ў сакавіку 1946 году царква — службы пачаліся ў царкве. У тым самым часе — апошнія месяцы 1945 году — Мікола Равенскі арганізаваў таксама і сьвецкі хор, а крышку пазьней і жаночы ансамбль, часта званы ансамблем Дашкевічаў (амаль усе сьпявачкі былі з клану Дашкевічаў).

Мікола Равенскі стаўся таксама сябрам настаўніцкага калектыву Беларускай Гімназіі, якая тады арганізавалася, ды дапамагаў у працы з моладзьдзю. Я асабіста, аддаючыся ў тым часе найбольш арганізацыі беларускага скаўтынгу, вельмі часта звярачаўся да кампазытара, каб ён нам «нешта напісаў» — ці то песьню для вогнішча, ці маршовую. Трэба тут падкрэсьліць, што для скаўцкай моладзі Мікола Равенскі напісаў «Скаўцкую Малітву» і «Гімн Ваўчанятаў». Увесну 1946 году, рыхтуючыся да высьвячэньня царквы Сьв. Еўфрасіньні, кампазытар Равенскі быў таксама галоўнай асобай у рыхтаваньні некалькіх беларускіх выступаў на міжнацыянальных фэстывалях ды асабліва ў рыхтаваньні сьвята Купальля, якое адбылося ў беларускай частцы селішча Ганггофэр у чэрвені 1946 году.

Калі беларускі лягер з Рэгенсбургу перавезьлі ў Міхэльсдорф, Мікола Равенскі на кароткі час затрымаўся ў Міхэльсдорфе, але хутка пераехаў з групай інтэлігенцыі ў беларускі лягер у мясцовасьці Остэргофэн. Там ён таксама выкладаў у гімназіі, вёў хоры ды актыўна ўдзельнічаў у працы тэатральнае студыі.

Мае кантакты з сп. Равенскім працягваліся па лініі скаўтынгу: мы рыхтавалі скаўтмайстарскія курсы, арганізоўвалі дружыны беларускіх скаўтаў у небеларускіх лягерох, бралі ўдзел у міжнародных імпрэзах — усюды была патрэбная музычная дапамога. Але я з сп. Равенскім часта сустракаўся і пры іншых нагодах: у Остэргофэне ён даўжэйшы час жыў разам зь сям'ёй Савёнкаў — старое менскае зямляцтва ды рыбалоўчыя зацікаўленьні зь Лявонам Савёнкам — а я здорава цікавіўся Зорай Савёнак, — дык частавата мы бачыліся і ў Остэргофэне. І ў гэтым беларускім лягеры ён пісаў свае творы, працаваў грамадзка ды вучыў.

Наступны пэрыяд майго бліжэйшага супрацоўніцтва зь Міколам Равенскім — гэта жыцьцё ў Лювэне ў Бэльгіі. Як адзначыў мой сябра Янка Жучка, сп. Равенскі прыехаў у Лювэн у сярэдзіне 1950 году, калі ў Лювэне ўжо дзеіла ладна сцымэнтаваная грамада беларускіх студэнтаў. Відавочна, што наш пабыт у Лювэне вызначаўся асноўным заданьнем — здабыць вышэйшую адукацыю. Але грамадзкія патрэбы, вонкавая палітычная праца, накіраваная як на арганізацыю беларускіх работнікаў, гэтак і на рэпрэзэнтацыю Беларусі, займалі таксама важнае месца. Каб больш удала рэпрэзэнтаваць Беларусь навонкі, студэнты вырашылі арганізаваць хор і запрасіць на кіраўніка кампазытара Равенскага. Хутка па прыезьдзе ў Бэльгію камп. Равенскі пачаў сьпеўкі з тымі, хто ў часе летніх канікулаў быў у Лювэне. З восені-ж 1950 году пачалася сталая праца — раз ці два разы на тыдзень адбываліся агульныя сьпеўкі, а ў іншыя дні — сьпеўкі з паасобнымі партыямі, заняткі з салістамі, лекцыі-практыка гармоніі, ігра на розных інструментах. Быў арганізаваны таксама хор царкоўны, бо ў Бэльгію неўзабаве пераехаў а. Аўген Смаршчок і ў Лювэне была адчыненая беларуская праваслаўная капліца, службы ў якой адбываліся амаль штотыдня.

Калі жыцьцё й дзейнасьць бальшыні студэнтаў у Лювэне былі досыць напружаныя й поўныя, дык поўным і працавітым было таксама жыцьцё сп. Равенскага. Хор сьвецкі часта выяжджаў з канцэртамі: мы выступалі ў Льежы, Брусэлі, вугальным басэйне Лімбургу. Езьдзілі з канцэртамі ў Парыж, у Ліль. З салістамі кампазытар Равенскі часта выяжджаў на канцэрты для беларускіх работнікаў.

Даўгі час я займаў у Саюзе Беларусаў Бэльгіі пасаду заступніка старшыні і ў мой абавязак уваходзіла якраз арганізацыя сьвяткаваньняў, лекцыяў, канцэртаў на правінцыі, і заўсёды нам у правядзеньні розных імпрэзаў дапамагаў сп. Равенскі. Сьвецкі хор выступаў у гарадох Мэхэльне, Лювэне, Намюры, Брусэлі, Монсе, а хор царкоўны штогоду браў удзел у Тыдні Хрысьціянскае Еднасьці ў Брусэлі, Генце.

Але апрача творча-прафэсійна-грамадзкае дзейнасьці і прыватнае жыцьцё Міколы Равенскага было вельмі поўнае: часта да яго ў госьці прыяжджаў кампазытар Алесь Карповіч зь Нямеччыны. Равенскі са студэнтамі наведваў музэі, галерэі. Некалькі разоў мы зь ім зьведвалі гор. Антвэрпэн і мясьціны зьвязаныя з працай Рубэнса і іншых фламандзкіх мастакоў і дзеячоў культуры. Зьведалі мы амаль усе музэі і Брусэлю, ды асабліва яму спадабаўся музэй Бэльгійскага Конга, які тады знаходзіўся паміж Брусэлем і Лювэнам у гарадку Тэрвюрэн. Любіў Мікола Равенскі бываць і на прыродзе: мы зьведвалі Ардэны, былі ў Дынанце, Бастоні. Часта ён хадзіў у кіно, на розныя канцэрты. Бываў частым гасьцём і ў беларускіх работнікаў у Шарлеру

Монсе, Гасэльце. Асабліва-ж актыўны ў лювэнскім пэрыядзе сп. Равенскага быў час, калі ягоны хор запісваў песьні на кружэлкі. Быў гэта нялёгкі час: кампазытар чуўся хваравата, перанёс адну апэрацыю (у Равенскага быў рак лімфатычнае сыстэмы), сушыла горла, а езьдзіць у студыю ў Брусэль зь Лювэну (26 км.) трэба было пару разоў на тыдзень. Паўставалі непаладкі ў раскладах — ня ўсе сьпевакі маглі адлучацца, бо-ж была і адказная навучальная праграма, трэба было рыхтавацца да залікаў. Аднак усе разумелі: выдаць кружэлкі — нацыянальны абавязак. І працу зрабілі. Кружэлкі зь сьвецкімі песьнямі і царкоўнымі напевамі былі выдадзеныя. На жаль, творца, рухавік гэтага ўсяго працэсу ўжо ня мог бачыць выніку свае працы. У сакавіку 1953 году сп. Равенскі памёр. Мы з Зорай былі апошнія наведальнікі яго ў шпіталі. Для студэнцкае грамады ў Лювэне насталі жалобныя, сумныя дні. Наперадзе былі заплянаваныя выступы, патрэбен быў кіраўнік.

На нейкі час нас выручаў сп. А. Карповіч, а хутка кіраўніцтва хору ўзяў сп. Кастусь Кіслы. Па сьмерці сп. Равенскага хор ягоны даваў яшчэ канцэрты ў Ангельшчыне, Нямеччыне ды на міжнародным фэстывалі ў Брусэлі, за што нашаму хору была дадзеная ўзнагарода. Вялікую прапаганду беларускай музыцы зрабілі выдадзеныя кружэлкі. Трэба мець на ўвазе, што айчынная прадукцыя беларускіх кружэлак, калі ў тым часе і была, дык у Эўропе гэта ня было ведама, і толькі кружэлкі хору Равенскага рэпрэзэнтавалі беларускую музыку, песьню. Мне давялося бачыць нашы лювэнскія кружэлкі ў шмат якіх музычных установах у Заходняй Эўропе. Я таксама дакладна ведаю, што трапілі тыя кружэлкі і ў Бэльгійскае Конга, і Анголу. Шмат кружэлак трапіла ў хаты беларускіх эмігрантаў.

Але ня толькі ўспаміны, гімн «Магутны Божа», «Скаўцкая Малітва», «Гімн Ваўчанятаў» і інш. песьні ды кружэлкі засталіся ў спадчыну па Міколу Равенскім. Інтэнсыўна ён рыхтаваў, а закончылі ягоныя вучні, сьпеўнік сьвецкіх песьняў, які дзеля тэхнічных цяжкасьцяў ня быў у тым часе выдрукаваны, але старанна перахоўваўся Ул. Цьвіркам, В. Шчэцькам, Ул. Бакуновічам, Я. Жучкам ды, дзякуючы сп. Я. Запрудніку, трапіў у архіў БІНІМу. Рэлігійная-ж спадчына сьв. пам. Міколы Равенскага, сабраная сп. Гаем Пікардом у Лёндане, як і сьвецкая ў БІНІМе, знаходзіцца ў выдавецкіх плянах.

Вось гэткія былі-б дадатковыя нататкі да жыцьця й дзейнасьці Міколы Равенскага на эміграцыі, якому і беларускае эміграцыйнае грамадзтва, і беларускія студэнты ў Лювэне дапамагалі і, у меру магчымасьці, ствралі недастачую яму сямейную атмасфэру ды найбольш шчыра ганарыліся ім і ягонай працай для Беларусі.

**Вітаўт Кіпель**

### АБВЕСТКА

Беларуска-Амэрыканскі Грамадзкі Цэнтр плянуе летам гэтага году чарговую вандроўку ў Беларусь з 2 па 17 ліпеня.

Вы можаце наведаць родныя мясьціны, зрабіць экскурсію ў Белавежскую пушчу, на Палесьсе, у Горадню.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць у старшыні Цэнтра Жоржа Наумчыка. Тэл. (908) 257-8431 (пасьля 6:30)

Ян Запруднік. ***РАЗЬВІЦЬЦЁ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СЬВЕДАМАСЬЦІ І ЕЙНЫ ЎПЛЫЎ НА КІРУНАК ЗАМЕЖНАЙ ПАЛІТЫКІ БЕЛАРУСІ***

Гэтак загалоўлены разьдзел у англамоўнай кнізе «Нацыянальная тоеснасьць і этнічнасьць у Расеі і новых дзяржавах Эўразіі (National Identity and Ethnicity in Russia and the New States of Eurasia. Ed. Roman Szporluk. Armonk, New York: Sharpe 1994). Кніга выйшла пад грыфам Мэрылендзкага Ўнівэрсытэту і Ўнівэрсытэту імя Дж. Гопкінса. Аўтар беларускага разьдзелу разглядае ўплыў факту фармальнага сувэрэнітэту Беларусі на разьвіцьцё дзяржаўных інстытутаў і ўплыў сувэрэнітэту на працэс станаўленьня культуры і нацыянальнай сьведамасьці. Разглядаецца таксама геапалітычнае і эканамічнае палажэньне Беларусі, у тым ліку ваенныя і культурныя сувязі з Расеяй, што абумоўліваюць замежную палітыку рэспублікі. Даецца агляд самога мэханізму фармуляваньня замежнай палітыкі. З усяго робіцца выснова, што калі ў Расеі і Ўсходняй Эўропе ня будзе катаклізмічных забурэньняў, беларуская дзяржава вытрывае выпрабаваньне часам і замацуецца — дзякуючы галоўна этнічнай і гістарычнай сьведамасьці беларусаў.

***«ТАРАС САЙКА. Ініцыятар і галоўны фінансавы ахвярадаўца на рэч перакладу і друку Бібліі на літоўскай мове».*** Выд. Яна і Аліцыі Пятроўскіх: Беларускі Харытатыўна-Адукацыйны Фонд. Гейнсвіль, Флярыда, 1995. 103 сс., ілюстрацыі.

У кнізе сабраны матар'ял (лісты, артыкулы-перадрукі з даваенных і паваенных гадоў, фатаздымкі) да гісторыі перакладу Бібліі на беларускую мову. Зборнік адлюстроўвае таксама рэлігійныя пагляды сп. Яна Пятроўскага. Шмат увагі прысьвечана ў кнізе ня толькі пастару Т. Сайку, але й др. Янку Станкевічу і Майсею Гітліну, якія займаліся перкладам «Бібліі» ў ЗША ў 1960-70-х гадох ды зь якімі палемізуе ўкладальнік зборніка. Неабазнанага чытача будзе зьбіваць з тропу тэрмін «на *літоўскай* мове» ў падзагалоўку кнігі (які па-ангельску перакладзены неадэкватна як ***Greatlitvanian — вялікалітоўскі***), а сам аўтар далей у кніжцы карыстаецца тэрмінам «беларуская мова». Шкада, што гэты тэрміналягічны разнабой ня вытлумачаны на ўступе да кніжкі.

У кніжцы (сс. 62-82) зьмешчаны камэнтар па-польску, які Адам Міцкевіч даваў да свае паэмы «Пан Тадэвуш». «Характэрным зьяўляецца камэнтар тым, — піша Пятроўскі, — што ў ім словы **беларускі, беларус**... няведамымі ёсьць. Аўтар усюды ўжывае **літоўскі, Літва**».

Гэта, відаць, мае быць аргумэнтам на апраўданьне тэрмінаў «літоўская мова» і «вялікалітоўская мова», на якую быў зроблены пераклад «Бібліі», фінансаваны зь ініцыятывы Тараса Сайкі.

Выдадзены сп. Пятроўскім зборнік паслужыць матар'ялам пры пісаньні будучае гісторыі перакладаў Бібліі, асабліва Новага Запавету, якіх ужо налічваецца каля дзесятка.

***Прысылайце ў Рэдакцыю выразкі***

Рэдакцыя «Беларуса» ўдзячная ўсім, хто прысылае выразкі з газэт і часапісаў, якія выдаюцца на Захадзе.

# СЬВ. ПАМ. МІКОЛА ПАНЬКОЎ

***(12.VI.1911 – 7.I.1995)***



**Памёр Мікола Панькоў**

7 студзеня 1995 г. памёр Мікола Панькоў, беларускі літаратар, журналіст, публіцыст, архівіст і грамадзкі дзеяч, найбольш ведамы зборам беларускай эміграцкай літаратуры пасьля Другой сусьветнай вайны: часапісаў, лістовак, газэт, кніжак ды ўсякае друкаванае ўсячыны, пашыранае ў бальшыні выпадкаў ратататарным спосабам.

Захварэў нябожчык 24 верасьня 1994 г. і знаходзіўся ў Лютэранскім Мэдычным Цэнтры ў Брукліне, дзе й памёр 7 студзеня. 10 студзеня адбыліся паховіны ў пахавальным бюро Даніэля Шэфэра. Пасьля жалобнага красамоўства прынагоднага сьвятара і кароткай прамовы сп. Васіля Шчэцкі цела было перададзена крэмацыі.

Прысутныя дачка Ніна зь сям'ёю (сын Том і дачка Элізабэт), В. Шчэцька і К. Мерляк пасьля разьвітаньня зь нябожчыкам спакаліся ў рэстаране, дзе пры пасілку ўспаміналі Міколу ды мелі нагоду пагаварыць аб ягонай спадчыне.

**З успамінаў аб Міколу Панькову**

Мікола Панькоў нарадзіўся 12 чэрвеня 1911 году. Яшчэ ў школе ўдзельнічаў у беларускім нацыянальна-вызвольным руху, хоць і ня поўнасьцю ўсьведамляў значэньне свае дзейнасьці (быў сувязным паміж Дзьвінскам і Коўнам, перавозячы лістоўкі і друкі беларускіх эсэраў). Затым быў кіраўніком паўлегальнага гуртка «Лепшая Доля», заснаванага Паўлінай Мадзёлкай-Грыб, выдаўцом гімназіяльнага часапісу «Школьная Праца», супрацоўнікам газэтаў, выданых як пад Латвіяй, гэтак і ў Заходняй Беларусі. М. Панькоў — адзін зь ініцыятараў, разам з К. Езавітавым і С. Сахаравым, падрыхтоўкі выданьня Беларускай Народнай Энцыкляпэдыі.

На эміграцыі: рэдактар і выдавец некалькіх рукапісных газэтак і часапісаў, супрацоўнік некаторых газэтаў, закладчык Беларускай Бібліяграфічнай Службы, старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту на Ангельскую Зону Нямеччыны, Саюзу Беларускіх Журналістаў на Чужыне.

Працаваў над гісторыяй беларускага часапісьменства, даведнікамі «Хто ёсьць хто на эміграцыі», «Мартыралёгія беларускага народу (ахвяры бальшавізму)» і «Беларуская прэса на эміграцыі».

Найшырэй разыйшлася ягоная праца: **«Паказальнік беларускіх выданьняў на чужыне за 1945-1950 гг.»** Уклаў М. Панькоў. Нью-Ёрк, выданьне Крывіцкага Навуковага Таварыства Прanціша Скарыны, 1952. 64 сс.

**Жыцьцёвы шлях**

Нарадзіўся Мікола Панькоў у Люцыне (цяпер пад Латвіяй). Бацька Мікалай і маці Хрыстына паходзілі з былых сялян. Беларусы. Бацька быў машыністам паравозаў на чыгунцы. Памёр у 1914 годзе. У сям'і было чацьвёра дзяцей: двое дзяўчат і двое хлапцоў. Старэйшая сястра памерла падлеткам, малодшая — дзіцём. Малодшы брат Уладзімер служыў у войску, пасьля вайны быў высланы ў лягер у СССР, дзе й загінуў.

Мікола хадзіў у першую беларускую школу, шасьцігодку, што была адкрыта ў Латвіі ў 1921 годзе. Пайшоў адразу ў другую клясу, бо меў падрыхтоўку дома, і шостую клясу скончыў у 1926 годзе. Далей вучыўся ў Беларускай гімназіі ў Дзьвінску. Тут жыў у інтэрнаце, куды ўдалося перасяліць і брата (маці працавала ў інтэрнацкай кухні і мела пры інтэрнаце асобную кватэру). Гімназія была чатырохгадовая. У гімназіі, бывшы ў 4-й клясе, за тры месяцы да экзаменаў, латышская палітахранка арыштавала Міколу і іншых гімназістых. Судзілі цэлую групу вучняў (у 1926 г.). Латышы прышылі падсудным камунізм за тое, што яны змагаліся за Латгалію як частку Беларусі. Усім далі па пяць гадоў турмы. Мікола быў суджаны як кіраўнік (ён прыняў на сябе віну з тым, што, можа, не зачыняць гімназію). У турме адсядзеў чатыры гады: 1926-1930. Усё-ж гімназію зачынілі ў 1932 годзе. (Пры прэзыдэнце Ульманісе закрылі ўсе беларускія школы і арганізацыі.)

Пасьля турмы пачаў працаваць на жыцьцё. Спачатку быў пісарам у Дзьвінскай гарадзкой управе, пакуль не даведаліся, што быў суджаны і сядзеў у турме. Звольнілі з працы. Агулам, удзельнічаў у беларускім грамадзкім жыцьці, у беларускай самадзейнасьці (сцэнічных пастаноўках). Арганізаваў моладзь. Езьдзіў па вёсках і праводзіў беларускую работу, асабліва ў часе перапісу 1932 году. З дапамогаю настаўніка Міколы Барткевіча (які сам ня мог быць рэдактарам, бо не дазвалялі) выдаваў месячную газэту «Школьная Праца». Газэта праіснавала каля году. Зачынена латышамі. Усё рабілася з дапамогаю Канстантына Езавітава і Сяргея Сахарава (дырэктар гімназіі). Да прыходу Саветаў больш нічога зрабіць не ўдалося.

Пад Саветамі жыў амаль паўлегальна. Праводзіліся арышты. Бальшыня беларускіх дзеячоў хавалася.

З прыходам немцаў беларускае жыцьцё пачалося ізноў. Паўстала Беларускае Нацыянальнае Аб'еднаньне. Рабілі, што маглі — адкрыта, ня так як пры Саветах. Мікола працаваў на чыгунцы інструктарам. Гэта давала магчымасьць дапамагчы аднаму-другому беларусу паехаць кудысь, перавезьці нешта цягніком для беларускае справы. Эвакуаваўся ў Нямеччыну ў 1944 годзе.

У Нямеччыне, пасьля вайны, стараўся арганізаваць беларусаў. Зь Вітаўтам Тумашам і Сьвятаславам Каўшом зарганізавалі Беларускі Дапамаговы Камітэт на Ангельскую Зону. Мікола быў старшынём гэтага камітэту. Заняўся адначасна зборам белару-

*(Працяг на 8-й ст.)*

## СЬВ. ПАМ. М. ПАНЬКОЎ

*(Заканчэньне зь 7-й ст.)*

скае бібліяграфіі — зьбіраў усё, што выходзіла на эміграцыі пасьля Другой сусьветнай вайны. Супрацоўнічаў з газэтай «Бацькаўшчына», часапісам «Наперад!», палемізаваў з «зарубежнікамі», лічыў сябе «крывічом».

У 1948 годзе быў прыняты ў Раду БНР. Удзельнічаў ува ўсіх паседжаньнях таго часу, трымаў ад імя Рады сувязь з Прыбалтыкай.

Прыехаў у ЗША зь сям'ёй 6 чэрвеня 1951 году. Жонка, Марыя Панькова (21.VII.1904 – 15.IX.1991), крыху пісала пад псэўдонімам Ніна Змагарка. Жыў увесь час у Нью-Ёрку.

**Васіль Шчэцька**

### Разьвітальнае слова

*(Прамова сп. Васіля Шчэцькі, па-ангельску, перад труною ў пахавальным бюро 10.I.1995)*

Дарагія сям'я і прыяцелі!

Сяньня мы праводзім апошні раз бацьку, дзеда і прыяцеля ў вечнае жыцьцё. Мы ня можам акрэсьліць вечнасьці, але верым, што гэта — лепшы сьвет.

Гляньма коратка, што Мікола марыў стварыць у сваім жыцьці і што яму ўдалося зрэалізаваць. Як я яго ведаў, дык ён быў беларускім патрыётам у першую чаргу. І ён прабаваў стварыць нешта значнае для Белрусі. Ад канца Другой сусьветнай вайны, апрача актыўнага ўдзелу ў беларускіх арганізацыях, ён пасьвяціў сябе зь вялікім парывам справе збору беларускіх публікацыяў пісаных нашымі эмігрантамі. Аддаў таксама шмат часу навуковым пошукам, як і выданьню ім самым некаторых рэчаў. І ён заправды меў посьпех. Ён быў настолькі ўцягнуты ў сваю работу, што нават ня дбаў пра сваю асобу.

Але ён быў шчасьлівы, што змог пакінуць Беларусі і яе дзецям іскру гісторыі таго, як беларускія эмігранты, выгнанцы з камуністычнае БССР, песьцілі родную мову, літаратуру, беларускую культуру, беларускую спадчыну.

Вечная памяць.

*Ліст у Рэдакцыю*

## ШТО БЫЛО СКАЗАНА НА ЗЬЕЗЬДЗЕ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ

Ветліва прашу надрукаваць у «Беларусе» папраўку да артыкулу «Пётр Краўчанка ў абароне мовы» («Беларус» № 421) наступнага зьместу:

На 1-м зьезьдзе беларусаў сьвету я не казала, як цытуе мяне сп. П. Краўчанка: «Ці многа мы хочам? Толькі аднаго — захавайце нашу родную мову».

У маім выступленьні на 1-м зьезьдзе беларусаў сьвету, бязумоўна, гутарка была й пра захаваньне беларускай мовы, але праваднай думкай мае прамовы былі словы:

«...Мы хочам Беларускае Народнае Рэспублікі абвешчанае Актам 25 Сакавіка, што значыць: мы хочам поўнае дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі. Мы ня хочам ніякае 'фінляндызацыі', аб якой сяньня часта гавораць, а якая, дарэчы, абразьлівая і для самой Фінляндыі. Ніводзін шануючы сябе народ не пагодзіцца на абрэзкі незалежнасьці, не пагодзімся на іх і мы!»

Вось як «многа мы хочам», сп. Краўчанка.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

*Адкрыты ліст*

## ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРУ РБ МІХАІЛУ ЧЫГІРУ МІНІСТРУ СУВЯЗІ РБ



Паважаныя Спадары!

Зь менскіх паштамтаў разыходзяцца ўва ўсе канцы сьвету лісты, на якіх пячаткі гавораць аб тым, чаго ўжо няма ад сьнежня 1991 году — няма больш ані СССР, ані ягонага гэрбу — сярпа з молатам. Тымчасам гэтымі мёртвымі атрыбутамі ўсё яшчэ карыстаецца беларуская пошта. Практыка гэтая была-б сьмешнай, калі-б на была шкоднай. Рэч у тым, што пра Беларусь у сьвеце ведаюць вельмі мала, а калі і ведаюць, дык, пад уплывам дэзынфармацыі, глядзяць на Беларусь як на правінцыю Расеі, сатэліт Масквы. Гэткае бачаньне Беларусі заходнімі публіцыстамі, палітыкамі і бізнэсмэнамі ўплывае адмоўна на шанцы рэспублікі ў пашыраньні культурных і дзелавых кантактаў з вонкавым сьветам. Хто хоча наладжваць сувязі з правінцыяй?

Мы разумеем, што беларускаму ўраду даводзіцца цяжка зь бюджэтам, на ўсё нестае сродкаў. Таму прапануем абвясьціць збор грошай на пячаткі для Беларускае пошты сярод беларускіх суродзічаў на Захадзе. Нашы людзі шчодрыя, скінуцца на добрую справу. Просім толькі падаць нам адрас і нумар банкавага конта, на якое перасылаць ахвяраваньні.

З найлепшымі пажаданьнямі і пашанай –

**Газэта «Беларус»**

У нядзелю 19 лютага 1995 г., пасьля хваробы, передчасна памёр

## СЬВ. ПАМ. РЫЧАРД КЛІНЦЭВІЧ

Нарадзіўся 14.II.1947 г. у Нямеччыне, памёр у Вудгавэне ў Нью-Ёрку. Настаяцель а. Ігумен Грэгоры, а. Дыякан Майкл і прыхаджане царквы сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле ў Нью-Ёрку перасылаюць свае спачуваньні маці нябожчыка сп-ні Полі Клінцэвіч і сястры Ларысе. Пахаваны 22 лютага 1995 г. на беларускіх могілках у Іст-Брансьвіку ў штаце Нью-Джэрзі.

Вечная памяць.

## ПЛЁТКА ПРА АМЭРЫКАНСКІЯ КАНСЭРВЫ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

«Народная газета» (24.II.95) зьмясьціла запярэчаньне плётцы пра «атручаныя» кансэрвы дзіцячае ежы, атрыманыя праз амэрыканскую дабрачынную арганізацыю Сіты Гоўп Інтэрнашэнал. Плётка была пушчаная нейкай прыватнай газэтай у Барысаве, падхопленая агенцтвам БелаПАН і надрукаваная некаторымі рэспубліканскімі газэтамі. Рэспубліканскі цэнтр гігіены і эпідэміялёгіі правёў з кансэрвамі даґсьледаваньні, якія паказалі на беспадстаўнасьць плёткі, і Міністар па надзвычайных сытуацыях і абароне насельніцтва ад наступстваў чарнобыльскай катастрофы Іван Кенік змушаны быў склікаць прэсканфэрэнцыю, каб запярэчыць плётцы ды выбачыцца перад амэрыканскімі сябрамі Беларусі за дапушчаную дэзынфармацыю.

На жаль, плётка пра «атручаную» ежу трапіла (з камэнтаром ад рэдакцыі і на старонкі выдаванага ў ЗША «Беларускага Дайджэсту» (№ 3, сакавік 1995).

## АБВЕСТКА

### ПРАПАНУЕМ ІНФАРМАЦЫЮ І ІНШАЕ!

Шаноўнае спадарства!

Інфармацыйнае агенцтва навукова-вытворчай кампаніі «Тэхналогія» прапануе Вам раз на тыдзень дасылку свайго інфармацыйнага бюлетэню на беларускай альбо на ангельскай мове.

Чатыры разы на месяц Вы зможаце атрымоўваць цікавую, разнастайную, апэратыўную і эксклюзыўную інфармацыю аб важнейшых падзеях у палітыцы, эканоміцы, грамадзкім і рэлігійным жыцьці Беларусі напярэдадні вельмі важных для лёсу нашай краіны выбараў у парлямант. Кошт трох-месячнага інфармацыйнага блёку з улікам перасылкі $35. Заключаецца адпаведная дамова.

Нашыя экспэрты і спэцыялісты могуць падрыхтаваць матар'ялы, каторыя патрэбны толькі Вам. У гэтым разе кошт працы абмаўляецца асобна, згодна зь яе складанасьцю і памерамі.

Мы таксама гатовыя дасылаць для Вас найбольш цікавыя і папулярныя беларускія газэты, кнігі, часапісы.

Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефонах у Менску:

(0172) 21-77-40
(0172) 27-19-40
факс: (0172) 21-77-40

Адрас: 220007 Менск
вул. Магілёўская, 43
Кампанія «Тэхналогія»
Беларусь

З павагаю,

**Вацлаў Багдановіч**
**прэзыдэнт кампаніі «Тэхналогія»**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Праф. Лёхэр | ам. д. 32 |
| Н. і Л. Чупракоў | 30 |
| М. і Б. Махнач | 100 |
| А. Чарнэцкая | 100 |
| Я. Крэсла | 25 |
| Я. Юхнавец | 20 |
| Ю. Касьцюкевіч | 30 |
| В. Шчэцька | 35 |
| Б. і Т. Богдан | 50 |
| М. і В. Сьнежка | 100 |
| З. Левіт | 25 |
| А. Хрэноўскі | 50 |
| Ю. Наумчык | 30 |
| Н. Кудасава | 30 |
| М. Рагалевіч | 30 |
| South River Travel Service | 100 |
| Л. Бандзік | 30 |
| М. Яськевіч | анг.ф. 5 |

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНІМ

| | |
|---|---|
| Ф. і В. Бартуль | ам.д. 1000 |

Каталёг выданьняў Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва за пэрыяд 1951-95 гг. можна дастаць, пішучы на адрас: BINiM, 230 Springifled Ave., Rutherford, NJ 07070, U.S.A.

***Просьба да чытачоў і ахвярадаўцаў***

### У СПРАВЕ РАЗЬЛІКУ ЗА ГАЗЭТУ

Асобы, што дастаюць газэту ад нашага прадстаўніка сп. Браніслава Даніловіча, павінны зь ім і разьлічвацца, выпісваючы чэк на ягонае імя і перасылаючы на ягоны адрас:

B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, N.J. 08901